Чацьвер, 11 сакавіка 1920 г. Цана—2 маркі.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

ІЛЮСТРАВАНАЯ ЧАСОПІСЬ

Год II. друкуецца ў Менску. № 6 (28).



## Нашае становішчо.

Калі мы зірнем на гісторыю беларускага народу за апошніе вякі, дык пераканаемся, што дзьве сілы перашкаджалі яму асымілявацца і зьліцца з тымі моцнымі суседзямі, якіе і фізычнай і культурнай перавагай гэтага дамагаліся.

Ґэтые сілы—наша мова і наша інтэлігэнцыя.

Ад д-ра Фр. Скарыны з Полацку да інтэлектуальных сіл нашай эпохі гэтые два маякі блішчэлі сярод векавой ночы няволі і зьдзеку ў нашым краі.

Іначай і быць не магло.

Праўда, пад ярмом чужых народаў чуць тлелі іскры нашай нацыянальнай ідэі, шмат з нашых сыноў адыйшлі на чужое поле, але, аднак-жа, беларус ня страціў свайго „я“ і за ўвесь працяг вялікай пакуты ён паказваў мацнейшым братом, шхо нэрв яго жыцьця яшчэ бьецца, што яго самабытнасьць яшчэ ня страчана.

Ворагі не маглі дашчэнту зьнішчыць дух беларускага народу.

І вось, пасьля вялікіх гвалтаў і злочынкаў, нам дадае веру тое, што мы маемо цяпер і мы не павінны пэсымічна глядзець на сваю будучыну.

Нашые інтэлігэнтные сілы растуць. Школы, часопісі, розные нацыянальные і эконамічные т-вы, тэатры і г. д. павялічываюцца. Наша мова заваёвывае сабе ўсё болей месца сярод грамадзянства. Нацыянальная асьвядомленнасьць пранікае народные масы і будзіцца дух селяніна па розных глухіх кутках Бацькаўшчыны.

Беларусь адраджаецца да новага жыцьця. Мы пэўны, што буйным крокам яна цяпер пойдзе наперад да сьвятла і шчасьця.

У нацыянальнай справе год можа цяпер лічыцца за ранейшые сто гадоў. Наш народ навінен гэта добра памятаць.

У справе нашага далейшага нацыянальнага разьвіцьця вялізарную ролю граюць нашые суседзі—Маскоўшчына і Польшча. А хто з іх адносіцца болей прыхільна да нас, аб гэтым жыцьцёвые факты самі за сябе гавораць.

Варта толькі глянуць, як наша справа стаіць на часьці Беларусі пад бальшавікамі і як тут, пад польскай окупацыяй. У гэтым ужо параўнаньні непатрэбны: Беларускі рух на нашай зямлі пад маскоўскім савецкім урадам задушаны да шчэнту, а тут наша культура, хоць ня так, як-бы хацелося, але, аднак, разьвіваецца.

А гэта ўсё дзякуючы таму, што лепшые сыны польскага народу з п. Язэпам Пілсудскім на чале даюць нам магчымасьць працаваць, не зьвяртаючы увагі на перашкоды польскай эндэцыі.

І вось нам ня прыходзіцца думаць аб тым, хто нам болей спрыяе. Трэба толькі працаваць і працаваць. Культурная работа давядзе нас да таго пункту, якога дамагаюцца нашые лепшые сыны—да незалежнага жыцьця.

Гэта залежыць ад політычных варункаў нашага краю. Лёс Беларусі павінен вызначацца цяпер на міравой конфэрэнцыі паміж Польшчай і савецкай Расіяй у Варшаве. Мы павінны ўсімі сіламі дамагацца, каб прадстаўнікі беларускага народу прыймалі учасьце ў гэтай конфэрэнцыі, дзе мелі-б магчымасьць бараніць свой край і свой народ.

Homo.

# Ай-Кітаб-Кіцеп.*)

Пасьмертная стацьця вядомага беларускага археолёга І. Луцкевіча.

Літоўскіе татары-магомэтане, якіе дагэтуль жывуць на Беларусі ў Меншчыне і Віленшчыне, ў пачатку XV веку пасяліліся ў нашым краі. Яны былі вызваны, як дапамагаючы корпус войска проці крыжакоў, вялікім князем Вітаўтам. Пасьля вайны яны асталіся ў нашым краю, адтрымалі право ажаніцца з дачкамі тутэйшых баяр-шляхты і прынялі ад іх фаміліі-прозвішчы, звычаі і беларускую мову; толькі вера засталася магомэтанская. Вось для духоўнай патрэбы татарскіе муллы (мална) арабскімі літарамі ператлумачылі на беларускую мову сьвятую кнігу „Ай-Кітаб", якую зьбеларушчылі ў слово „Кіцёп". Гэта кніга сьвятая ёсьць тлумачэньне Корану, яго важнейшых прыповесьцяў. Знаньне арабскай мовы хутка загінуло, засталося толькі знаўство пісаць арабскімі літарамі і чытаць яе. Мы бачым яшчэ праз два векі—XVI і XVII—на судовых дакумэнтах подпісы татарскіх прозьвішчаў арабскімі літарамі. Вучыліся татары доўгі час чытаць арабскімі літарамі з памянёнай вышэй беларускай кніжкі Кіцёпа. Ужо век XVIII прынёс у татараў уплывы польскіе ў граматнасьці і яны, як і ўся беларуская шляхта, пачынаюць чытаць, пісаць і падпісываць дакумэнты папольску; зьяўляецца ўжо ня толькі рукапісны у XVIII веку Кіцёп арабскімі літэрамі папольску, але і ў пачатку XIX веку друкаваны па польску лацінкай цэлы Коран.

Пісаны пабеларуску Коран і „Ай-Кітаб-Кіцёп" выходзіць з ужытку і як непатрэбная рэч затрачываецца. Доўга прышлося шукаць яе вучоным і толькі шчасьлівы выпадак давёў мяне да яго ў 1915 г. перад заняцьцем Вільні немцамі. Знайшоў я яго ў татарскага муллы Сьцяпана Палтаракевіча ў ваколіцы Сорак-Татары пад Вільняй. Кіцёп гэты складаецца з колькі сот страніц рукапісу, пісаны ў канцы XVI, або пачатку XVII веку. Рукапіс ня мае пачатку і канца. Дагэтуль удалося часьць яго расчытаць, перапісываючы арабскіе літары на лацінскіе—літара ў літару адтрымаўся чыста беларускі тэкст, які ніжэй падаю гражданкаю.

Стр. 1-ая:

*„На прод Божэ іме успамінайма, міласьць у нутрах свайіх уфундуем, першый і астатній он ест векоістый, да кожнай рэчы моцны ніхто ему непадобный ест, есьлі нічога не было твармў сьветы".*

Стр. 2-ая:

*„Цёмна было, очы сьветласьці не відзелі. Куры не пелі, сабакі не брэхалі, дошч ішоў, цёмна было, вецер веяў. Разумеў, што судный дзень настаў.*

Разглядаючы гэтае старое правапісьмо беларускае, пісанае арабістыкай, мы бачым дзьве характэрные асобнасьці, якіх у кірылічным тэксьце старых беларускіх памятнікаў ніколі не спатыкаем, гэта ясны згук „дз", напрыклад: дзень, невідзелі і г. д. Для гэтага згуку „дз" у арабскай транскрыпцыі істнуе асобае начартаньне літары „д"—яна перачоркнута. Так-сама другі згук „ць", напрыклад: цёмна, сьветласьці, міласьць,—у кірылічнай транскрыпцыі было-бы: тёмна і сьветласті, міласть, а тутака бачым, што згукі „дзе" і „це", ясна пісаліся арабістыкай, так як яны ў жывой мове XVI, XVII вякоў выгаварываліся. Гэта ёсьць ня збураны доказ, што жывая беларуская мова мае гэтые два характэрные згукі ад найдаўнейшых часоў і што новая беларуская транскрыпцыя, грнжданіцай і лацінкай, зусім правільная, а ўсе хітрыкі масквафілаў, якіе не прызнавалі „дзе" і „це", фундуючыся на ўбогасьці і беднасьці кірылічнага правопісу ў недахваце знакаў для перадачы памянёных жывых згукаў беларускай мовы „дзе" і „це", ня маюць пад сабой ніякай навучнай падставы, апрача русыфікатарскай тэндэнцыі, якая пры адкрыцьці такога важнага памятніка беларускага пісьменства, як „Кіцёп", арабістыкай пабеларуску напісанага ў далёкай мінуўшчыне XVI і XVII вякоў, сама сабой адпадае.

Менск 1918 г.

*) Гэтую стацьцю даў нябошчык І. Луцкевіч у 1918 г. Я. Варовцы для часопісі „Варта". Але, нажаль, „Варта" па сягоняшні дзень ня выйшла з друку.

Рэд.

---

# У досьвітак.

*Яшчэ пеўень пець не масьціцца,*
*Ня згасла нівоДная зорка.—*
*У хаце дыміцца газьніца*
*У хаце ужо чутна гаворка.*

*За прасьніцай з мягкай кудзеляй*
*Папрадуха сучыць пры сьценцы,*
*За нітачкай нітачку сьцеле,*
*Вурчыць і вурчыць вераценцо.*

*Хоць мілы сон клеіць павекі,*
*Хоць будзіць пасьцель успамінак,—*
*Дзяўчына сон гоне наўцекі,*
*Расьце і таўсьцее пачынак.*

* * *

*А ў полі заходзіцца бура,*
*Разносяцца жальбы і стоны,*
*Страхою калоце віхура,*
*Дождж хвошча па шыбах сьцюдзёны.*

*Пуцінай брыдзе падарожны;*
*Куды ён брыдзе, не згадаці,*
*Паглёдкаю сочыць трывожнай*
*Сьцяжыну ў балоцістай гаці.*

*Над ім небо з хмарамі віснe,*
*Цямрыца, дзе вокам ня кінуць;*
*Няўжо-ж вогнік з хаты ня блысьне,*
*Няўжо-ж падарожнаму гінуць.*

* * *

*Папрадуху зморы абселі,*
*У руках вераценцо ня скача;*
*Галоўку схіліла к кудзелі,*
*І дрэме, і сон дзіўны бача.*

*Ей сьніцца, што з некуля хтосьці*
*Сьпяшыць у дарозе да хаты,*
*Што ён так сьпяшыць к ёй у госьці*
*Такі малады і багаты.*

*І усьмешка усьцьвіла маладая,*
*І кроў забурлела крыніцай...*
*Ей сьніцца... Дый хто там згадае,*
*Што у досьвет папрадусе сьніцца?*

**Янка Купала.**

Смаленск 10/xı—18 г.

## Нашы песьняры.



Янка Купала.

Ужо два месяцы як поэт, Янка Купала, ляжыць цяжка хворы. Некалькі тыдняў быў ён на валаску ад сьмерці, але цяпер, дзякуючы неутамімаму, добраму дагляду над ім, яго здароўе паляпшаецца. Опэратыўные раны загаіваюцца. Тэмпэратура, сон і апэтыт нормальны і організм крапчэець. Ён ужо час ад часу поўгадзінкамі сядзіць на ложку і патроху чытае. Бадай праз тыдзень выпішацца са шпіталю, хаця посьле гэтага яшчэ з месяц яму патрэбен будзе адпачынак і нельга будзе яму хутка прыступіць да нормальнай літэратурнай працы.

# Юлька.

Ў маленькай дзесяцьмесячнай Юлькі „Ма“ (мама) была самым найвялікшым аўторытэтам на цэлым сьвеце, бо сьвет без падтрыманьня—чужая і нічога нявартная рэч, а „Ма“ вельмі падтрымлівала Юльку—яна давала сваёй дачцэ „гам“ (есьці). „Гам“, як кожнаму вядома, не абы што: бяз есьцікі і піці чалавек ня можа жыці. І Юлька мела сваю хатку на грудзях у маткі. Апрача яды Юлька мела ад „Ма“ і духоўные харчы—чароўные, вясёлые і сумные песьні над калыскай. Гэтые песьні Юлька мабыць ўсё жыцьцё не забудзе...

Маці патроху тлумачыла Юльцы вялізарную кнігу жыцьця—гэту мудрую хартыю, якую чытаеш-чытаеш да самай магілы і ніколі да канца не даходзіш.

Яна нудная і часам жудасная і шчасьліў той чалавек, хто ў шчырай прыязьні да другіх людзей, акружаны іхняй увагаю да сябе, забываецца аб гэтай праклятай кнізе...

Юльку Бог у справе прытульнасьці не пакрыўдзіў. Маці толькі аб ёй і клапоціцца і Юлька павінна дзякаваць Богу за добрую „Ма“, якая гатова ўсім жыцьцём сваім ахвяраваць за сваю дачурку. Ў адплату за гэта некалі і Юлька будзе такой-жа добрай маткай.

Ўсё акружаючае маленькую Юльку, як жывые і няжывые рэчы: дзеці, кіцка, цюця, стол, падушка і люля—былі яе „лялі“. Яна мела з імі вельмі грунтоўные стычкі: яна ўсё пробавала на „гам“. У гэтым выяўлялася ўся яе зацікаўленасьць і практычнасьць ў жыцьці:

Есьці, есьці і яшчэ раз есьці.

Калі было ўспадобу — губкі яе складваліся ў жывую кветку-ўсьмешку, калі не, дык яе нездаволенасьць вызначалася плачам. Яна плакала шчыра і доўга, ўсім целам, усей істотай. Балтала тады ручкамі і ножкамі. Цяжка прыходзілося тады маці, але матчыны грудзі ўсё перамагалі.

„Ма“ была найсмачнейшая за ўсе лялі на сьвеце. А смак Юлька мела добры.

Жывому чалавеку за печкай доўга не ўсядзець і Юлька так-сама ня раз рабіла „гайда“—вандроўкі з хаткі роднай на шырокі Божы сьвет—на дзядзінец. Кожны раз яна пры гэтым жмурыла вочкі свае на сонцо, хвалявалася, лавіла ручкамі паветро і зьесьці хацела ўвесь сьвет, які і сталаму чалавеку лёгка ў рукі не даецца. Але тым болей хацелося Юльцы дастаць талерачку з неба, як гэта кажуць. Мяцежные, агнёвые жаданьні напаўнялі яе душу і цяжка прыходзілося тады маці. Бяз гісторыяў і плачу тут абыходзіцца не магло і гэтакіе рэчы звычайна канчаліся выкупам, які павінен быў быць багаты: смачная сусолачка з цукрам, шкляная качалачка, бліскучая паперка, абручок і, словам, самые найцікавейшые скарбы—цацы на сьвеце ляжалі пад ножкамі Юлькі; гэтые цацкі рабілі „дзін-дзін-дзін, там-та-ра-рам!“ Імі маці варажыла Юльчыно сэрцо. Ды й цацкамі, хаця другога фасону, людзі забаўляюцца да самай сьмерці. Толькі дарослые людзі дастаюць гэтые цацкі бяз эгіды—маці.

Але Юлька бяз маці—чалавек ня зусім незалежны. Юлька ў гэтым магла пераканацца тады, як маці пры жніве пакінула яе ў кошыку на падушаццы адну на мяжы.

Быў цёплы, сонечны дзянёк. Паўднёвае зацішшо панавало ўсюды. -З-з-з-м!—гудзелі мушкі над Юльчынай галоўкай. Часам мятлічка гладзіла скрыдлачкамі яе кволые шчочкі. Часам птушачка вілася над ёю. Траука шчыкатала... Юлька лавіла рукамі направо і налево. Гатова была зьесьці ўсё, што не давалося на „гам“. Пры ёй сядзеў добры вартаўнік і таварыш з хаты роднай—кот. Гэта яе супакоівало тады, калі яна ўспамінала аб мамцы. Але вось кот улізнуў кудысь за птушкай цікаваць і Юлька адна-аднюсенька засталася...

Яна жмурыла вочы на сонцо і пры гэтым ўспомніла, што „Ма“, паказываючы на агонь у печцы, кажа—зю-зю! Хацела Юлька так-сама казаць: „зю“, але ад вялікай стараннасьці і натугі

пацягнулася яна ўсім целам у адзін бок ды кульгіць з кошыкам у баразну.

Што было потым?

Цёмна ў вачох зрабілося ей, як-бы яна ў бяздонную процьму паляцела, і яна першы раз у жыцьці, ў вялікім страху і роспачы, крыкнула „ма-ма!“.

Маці пачула толькі тады, калі Юлька ўжо аж пасінела ад плачу, ўпэцканая ў пяску.

Гэта была яе першая спроба жыць у адзіноце без апоры.

Прайшло яшчэ некалькі месяцаў. Юлька ўжо гаворыць: „та-та, ма ма, кіц-ка, цю-ця, цаца, ля-ля“ і г. д. Веда яе павялічываецца з кожным днём. Яе ручкі ўжо не хапаюцца за ўсё, што вочкі яе бачаць. Вугаль яна ўжо ні за якіе хаханкі ў губкі не бярэ, а хлеб з цукрам—чаму не?—Ого! Яна ўжо разумеець, што добра, а што блага...

А прывычка, паганая прывычка, губіць ня толькі адзіннага чалавека, але ўвесь сьвет...

Прывычка да матчынага малака каштавала Юльцы шмат сьлёз, шмат бясспрэчнага гора. Шмат начаў яна не дасыпала тады як матка яе адвучала ад сваіх грудзей, пасыпаючы іх перцам. І бадай да дваццацёх год яшчэ будзе Юлька спрасонку пальчык свой ссаць, а да самай сьмерці ў час пярэпалаху крычаць: „мама“.

Але ў жыцьці нічога адвечнага няма, ўсё мяняецца, прогрэсуе—Юлька гэта, каб толькі хацела, дык даведалася-б з сваей практыкі: яна ўжо на руках і нагах паўзе па хаце пад сталом, разам з курмі, катом. Яна ёрзае вандруе па куткох, шукаючы працы. А працы гэтай хоць адбаўляй: гладыш з малаком дагары пераверне, лужыцу кашулькай вымажа, лыжкай аб падлогу забарабаніць. Што і гаварыць—працы шмат ды й досіць сурьёзнай працы, каб здаецца дваццаць рук мела Юлька—і то было-б мала.

Чалавек бяз руху і работы нудзіцца, марнеець.—кажуць філёзафы,—і гэта ёсьць бясспрэчная праўда. Вось пытайцеся ў Юлькі, бо яна ўжо разумная досіць. Маці яе адукуе:

—Рабі аладачкі, Юлька!

Юлька плёскае ручкамі.

—Дзе Божанька?

Юлька пальчыкам паказывае на сьвяты абраз.

—Як кароўка мычыць?

—М-м-у-у-у!

—Як авечка кажа?

—М-м-э-э-э!

—Як тата злуецца?

Юлька сьцісківае кулачкі, робіць гнеўные вочкі ды кажа з імпэтам? „г-э-э!“

Пасьля гэтага яна глядзіць на ўсіх вачыма Аляксандра Макэдонскага. Жартачкі—яна ўвесь сьвет перамагла.

Ў нагараду маці бярэ яе на рукі, туліць да сябе і цалуець. Без награды ніхто нічога ня робіць, апрача вялікіх самаахвярнікаў—ідэялістаў, якіх скэптыкі ня хваляць.

Цалуючы Юльку, маці раптам пачынае злавацца, кажучы: „фэ, смаркатая“! і пры гэтым бярэцца фартухом выціраць Юльчын носік. Юлька не даецца і пачынае горка плакаць.

Нос—гэта самае слабое месцо ў Юлькі. Шмат горкіх мінют ён ей каштуе. І такая, здаецца, драбніца—нос! аж сьмешна, але ў гэтым і ўся трагэдыя, што часам дробненькі камарык звалівае з ног магутнага лева.

Ў хаце—вялікая радасьць.

Тата толькі што пехатой з кермашу вярнуўся ды й то падышоў да стала, дзе бабка і мама паставілі Юльку і вучаць яе хадзіць.

Юлька стаіць на стале, разьняўшы ручкі для роўнавагі. Вочкі спалоханы. Добра бабцы сьмяяцца, а каб яе паставілі на канаце, нацягнутым на двух слупох і сказалі-б ёй: „танцуй“—Нябось, тады не сьмяялася-б.

—Ма-ма!—просіцца Юлька ў вялікім страху.

—Ка мне! ка мне!—выстаўляючы рукі энэргічна кажа мама.

А Юльцы яе малюсенькіе ножкі здаюцца стапудовымі вагамі. Адвагі няма і цяжка, ой, як цяжка рабіць першы, сталы крок у жыцьці! Адважыцца трудна на гэта і сталаму чалавеку.

Але, бачачы, што шэсьць зацікаўленых, уважных вачей глядзяць на яе, дык ў яе душы будзіцца разам і гэрой і артыст. Яна адважылася і...

—Раз! два!—лічаць трое сталых людзей крокі малюткі.

—Плясь!—і Юлька гоцнулася аб стол, вачыма ратунку просячы.

І не пасьпелі яе падтрымаць у трудную хвіліну шэсьць моцных, сталых рук.—эх, людзі...

А з гэтых двох першых крокаў маці з бабкай радуюцца і нацешыцца ня могуць.

—Вось пацеха!.—з укорам кажа бацька,—папробавалі-б злічыць колькі крокаў я сягоньня махануў на кярмаш ды з кермашу, вёрст сорак, здаецца, а вы ані слова аб гэтым..

Але упарт дух чалавечы, хоць лобам, а сьцяну прабьець: праз тры дні Юлька ўжо хадзіла па падлозе, як муштраваны ваяка—пяхотнік, а праз тыдзень Юлька ўжо так круцілася матцы пад ногі, што той гэты фокус навет абрыд. Яна гнала ад сябе Юльку, як ката, кажучы: „Апсік“!

Юльцы гэта вельмі падабалося і яна мамцы мяўкала, як кот:—„мяў! мяў!“.

Яшчэ троху падрасла Юлька. Яна ўжо ў сукенцы паркалёвай, бо не маленькая, дзякаваць Богу—ёй ужо тры гады! Як матылёк круцічца, лётае ў агародзе сярод чырвонага маку.

Ей вельмі смачна рабіць тое, чаго ня можна і маці мае дзеля гэтага вялікіе клопаты. Калі скажа Юльцы ня пэцкаць спаднічкі, дык як раз прыдзе запэцканая ў гразі з ног да галавы. Скажа ёй не чапаць макаў, дык як раз наскубе поўные жмені. Скажа ёй:

—Юлька, ідзі спаць!

—Не хацу!

—Ня йдзі спаць!

—Пайду!

—Гуляй сабе!

—Не хацу!

—Ня гуляй!

—Бу гуляць!

Але гэты шайтан праціўнасьці не заўсягды пануе над ёй. Часам яна бывае ласкавенькай, добранькай і міленькай—як бабка ёй казкі пачны апавядае.

Шчырым сярэбным хохатам сьмяецца яна тады, як лютага воўка забіваюць, калі людаедзіха-вядзьмарка памірае.

Горкімі сьлязьмі плача яна тады, як воўк шэры зьядае чырвоную шапачку.

Пры гэтых казках блакітные вочкі яе блішчаць, як зоркі, або, як кветкі ў кроплях сьветлай расіцы.

А па начох сьняцца ёй дзіўные сны.

Ці разумеець Юлька шчасьце сваё?—хіба не. Хутчэй яна разумеець сваё горо, калі які колечы дзіцячы капрыз не выпаўняецца.

І хочацца ёй быць вялікай, як бабка. Пачынае яна з лічбаў—з матэматыкі:

—Раз! два! тры!—лічыць яна па пальцах і задумываецца.

—Раз! два! тры! пяць! дваццаць! сто!—ажна ў пот яе кідае. Але далей ня йдзець. Хоць матэматыка ёсьць грунтам усяму на сьвеце, але Юлька яшчэ на гэтым „грунце" слаба трымаецца.

Ды ці ня можна жыць бяз гэтых нудных цыфраў? І Юлька досіць весела жыве бяз іх: Назьбірае кветак—васількоў. Разложыць іх на камені. Адна кветка—мамка, другая—бацька, трэйцяя—бабка, чацьвёртая—цюцька. А камень—хата. І пачынаецца будняя аповесьць чалавечага жыцьця: кветкі гаспадараць на камені, аж люба глянуць.

У печы топіцца. Маці аладкі пячэ. Бабка кароўку доіць. Тата хамут ладзіць. Цюцька брэша. Словам, цэлая катавасія. А Юлька мае работы па горло—за ўсіх гаварыць, за ўсіх работу рабіць і зухавацца. Канчаецца гэта звычайна катастрофай—хатка-камень ляціць у рэчку, а людзі-кветкі топчуцца нагамі. Толькі Юлька ня плача над руінамі. Яна, як Сам Бог-Гасподзь. Зруйнавала адзін сьвет і з хаосу творыць другі.

Яна, Юлька,—маці. Пры ей дачушка—лялячка. І няньчыць, і песьціць і галубіць Юлька дзіця сваё роднае, але, як прыкладная, добрая маці, часам розгай сьцёбае яе і пры гэтым прыгаварвае:

—А ня рві маку! А ня пэцкай спадніцы! А слухай, што матка табе кажа! ты такая і сякая!

Словам, малюе жыцьцё, як мастак, як поэт у час натхнёнай творчасьці сваей.

—Хто пякней—пытаюцца ў Юлькі—ты, ці мамка?

Юлька думае.

І мамку яна крыўдзіць ня хоча, але ўжо сама—маленькая кабета і мае свой форс і гонар:

—Я пякней!—кажа яна цьвёрда.

—Ах ты нягодніца!—нібы-то злуецца мама.

—Хто пякней, ты ці лялька?

Доўга думае Юлька.

Барацьба кіпіць і расьцець у яе маленькай душы. Але матчыно сэрцо гатова ўсім ахвяраваць дзеля любага дзіцяці свайго, а Юлька, якні-як, хоць ёй яшчэ толькі пяць гадоў, а ўсё-ж такі маці, бо дачку-ляльку мае.

—Лялька пякней!—кажа яна ўрэшце...

Аказываецца, што душа яе вялікая: пачуцьцё маткі ўзгадовано ў яе сэрцы і душы крывёй і малаком ранейшай маткі.

У Юлькі матчына самаахвярнасьць жыве поўным жыцьцём, хаця імя свайго яна яшчэ выгаварываць ня можа. Замест „Юлька", кажа „Юйка". Аж бацька злуецца на яе за гэта самае і часам гнеўна кажа:

—Юлька!

—Га!

—Хадзі ка мне!

—Яна падходзіць.

—Кажы Юлька!

—Юйка!

—Кажы Юль-ка!

—Юй-ка!

—Ах ты, паганая!

Вучыся палюдзку гаварыць!

—Не хацу!

—Дык ня вучыся!

—Хацу вуціцца!

—Ну, дык глядзі на мяне!

Юлька глядзіць на яго.

—Добра глядзі.

—Юлька добра глядзіць.

—Рабі губамі гэтак, як я і кажы Юль! Юль! Юль!

Юлька робіць губамі гэтак, як ён і кажа:

—Юй! Юй! Юй!

—Го! го! го!—сьмяецца бацька.

—Гы! гы! гы!—плача дачушка.

І гэта пайшло ў забыцьцё. Яна ўжо так чыста гавора, што і бацьку перавастрыла—зьвініць, як звончык. Малоціць языком, як цэпам усё роўна. І ня дзіво, бо яна ўжо ходзіць у школу, ў тую вялікую школу навукі, дзе усё пачынаецца з „А, Б".

Тут для Юлькі адчыніўся новы сьвет пазнаньня добрага і благога. Забурліла глыбокая крыніца жыцьця, дзе шчасьце і горо перамешаны, дзе пануе вялікая неразбярыха: Адна і тая самая рэч аднаму чалавеку здаецца шчасьцем, другому—горам...

Пальцы ў Юлькі ў атрамэнце. Гэта—азнака стараннасьці, цярплівасьці, мудрасьці і працы. Яна пішаць і малюе так многа, што аж паперы не хапае. І прыходзіцца ей гэту вялікую здольнасьць сваю на ўласным твары паказываць—запэцканы нос, шчочкі і навет вочы.

Гэта, разумеецца, вельмі кепска, але што зрабіць з чалавечай душою, калі яна яшчэ такая кволая і вымагае вялікай ашліфоўкі. Ня гледзячы на ўсё, Юлька яшчэ зусім малюсенькая—ёй усяго шэсьць гадоў. Яна яшчэ часта пальчык у губкі кладзе і моцна трымаецца за матчын фартух.

Як пойдзе яе далейшае жыцьцё?

Чытайце вялізарные кнігі і галаваломные раманы і тады даведаецеся.

**З. Бядуля.**

Пасадзец 1917 г.

# Да матулі.

*Бедна ты мая, старэнька,*
*Родненька матуля!*
*Стала сіва ты й маленька,*
*Бо гады мінулі.*

*Бо няшчасьце ахапіло*
*Лес твой старавекі—*
*На чужыне зносіш, міла,*
*Голад, мукі, зьдзекі.*

*А мо' дзе пад крыжам ціха*
*Ужо навек заснула,*
*Несьцярпеушы гора-ліха,*
*Што це' агарнуло.*

*Ці-ж ня убачыш, не пачуеш*
*Сынавай жалобы,*
*Ці-ж яго не паратуеш*
*Ад нуды-хваробы?*

**Краўцоў Макар.**

## Флёрыян Ждановіч.



Фл. Ждановіч—вельмі заслужаны беларускі артыст і рэжысэр, які даў беларускай сцэне рад добра вышкаленых сіл. Хацеў ён залажыць Беларускае драматычнае т-во ў Менску яшчэ да вайны, але, нажаль, менскі губэрнатар дазволу на гэта ня даў.

Адкрылася яму магчымасьць сталай працы на беларускай сцэне толькі пасьля рэволюцыі 1917 году. І тут яго праца шырока разьвярнулася ў неокупованай немцамі частцы Беларусі. „Т-во Беларускай Драмы і Камэдыі“ пад яго кіраўніцтвам апрача Менску абʼяздажало бадай усе месты і мястэчкі Беларусі. Гэтым ён шмат дапамагаў справе беларускага нацыянальнага адраджэньня, пашыраючы беларускае жывое слова са сцэны.

Ф. Ждановіч мае солідны артыстычны талент. Яго амплуа—лірычные ролі. Ён грае з няробленым, шчырым пачуцьцем, якое ў яго даходзіць да самазабыцьця, даючы жывые гармонічные штрыхі поэтычных перажываньняў, якіе захопліваюць публіку. Сваей працай ён нажыў сабе абшырную популярнасьць сярод беларускага грамадзянства.

Ён абагаціў у свой час невялікі рэпэртуар беларускага тэатру сваей кемнай сцэнізацыяй аповесьці Э. Ожэшко „Падарожны“ і перакладам на беларускую мову „Цёткі з Бразыліі“.

Цяпер Ф. Ждановіч неутаміма працуе у Беларускім тэатры ў Менску разам з беларускім артыстам і драматургам Фр. Аляхновічам. Пад кіраўніцтвам іх абодвых, працуе сямья беларускіх артыстаў і беларускіе спэктаклі адбываюцца 2—3 разы на тыдзень у менскім гарадзкім тэатры.

С. П.

* * *

*На дзікім балоце ля вольхі крывой*
*Люблю я царыцу Зарніцу шукаць—*
*Аб долі—нядолі ля рэчкі сівой*
*Люблю ціха песьні складаць.*

* * *

*О, песьні!... бяз вас я і жыць бы ня мог,*
*Завяу-бы, як кветка бяз сонца й вады.*
*А з вамі—я шчасьліў, магутны, як бог,*
*А з вамі ня знаю жуды.*

Вінцэнтово 1914 г. Ф. Калінка.

## Рамуальд Жакоўскі.



Рамуальд Жакоўскі — малады беларускі артыст са школы Фл. Ждановіча. Ён пачаў працаваць у беларускім тэатры ў Менску ў 1917 годзе. З кожным месяцам, з кожным годам рос яго артыстычны талент. Вельмі ўдаваліся яму ролі старыкоў. Апроч таго ён пекна дэклямаваў. У звычайным жыцьці ён быў мэлянхолічным і праз меру задумёным дзяцюком.

Гаротнае ў матэрʻяльным сэнсе жыцьцё беларускага артыста прыгнятало яго. Ён нацярпеўся і голаду і холаду. Маладой і кволай душы ня хапіло сілы доўга змагацца з нядоляй. Ён ня вытрываў і скрыдлы зламаліся...—увосень 1919 году ён пакончыў жыцьцё самагубствам, маючы ўсяго 20 гадоў.

Ужо посьле яго сьмерці мы даведаліся, што Жакоўскі быў і поэтам, пісаў зграбные настраёвые вершы і працаваў над перакладам „Демона“ Лермантава на беларускую мову. Містычная, месячная муза мэлянхоліі вабіла яго із сваей таемнасьцю і няпрыязьнь да жыцьцёвай прозы давяла яго да магілы ў самым роськвіце моладасьці.

Яго шчырая частка працы ў адраджэньні роднага краю хай служыць зорачным орэолем для яго сьветлай памяці сярод яго таварышоў, беларускіх артыстаў, і ўсяго інтэлігэнтнага беларускага грамадзянства. А яго слабасьць у змаганьні з нядоляй хай яўна дыктуе ўсім працаўнікам на ніве беларускай, што трэба быць моцным у барацьбе і цьвёрда стаяць на родным, сьветлым шляху, каб клікаць цёмны свой народ да сонца і шчасьця.

С. П.

## З пасьмертных твораў Р. Жакоўскага.

* * *

*Мінулі, ня вернуцца болей ніколі*
*У забыцьце зышоўшые дні,*
*Памёрлі надзеі аб шчасьці і долі,*
*Навекі яны уплылі.*

* * *

*І толькі ўспаміны—самотные думкі,*
*Як зданьні пайночы, ўстаюць.*
*І вабяць так сэрцо былые малюнкі*
*І грудзі балючые рвуць...*

* * *

*А чулае сэрцо зноў бьецца, як білось.*
*І зноў распаляецца кроў,*
*І зноў для каханьня яно расчынілось,*
*Зноў мукі прыняць я гатоў...*

Знайшоў у паперах і падаў
М. Міцкевіч.

## Беларуская кроніка.

### Лёс Беларусі.

Лёс Беларусі як раней зьвяртае увагу палітычных кругоў Польшчы.

Рэзультатам доўгіх парадаў соймавай камісіі заграничных спраў і ўраду зьявілося офіцыяльнае паведамленьне камісіі аб тым, як Польшча глядзіць на бальшавіцкую міравую пропазыцыю.

У адказе, паміж іншым, сказано:

„Разьмежаваньне абедзьвюх дзяржаваў павінно пачацца перш за ўсё на аснове жаданьняў і інтарэсаў самога насяленьня".

„Польская рэспубліка назаўсягды рашыла устанавіць сваю усходнюю граніцу ў згодзе з мясцовым насяленьнем, і мае права і абавязак патрабаваць гэтак сама, каб насяленьню тых зямель, якіе ляжаць за лініяй фронту, але належалі да 1772 г. Польшчы, дадзена была магчымасьць вольна выказацца аб сваей дзяржаўнай прыналежнасьці".

З гэтага вынікае, што Беларусь, подлуг думак польскіх палітыкаў, ня можа быць разрэзана на часьці і павінна быць адзінай і непадзельнай. Уся штука ў тым, як Польшча малюе сабе будучую адбудову Беларусі. У гэтым пытаньні няма паўнага рашэньня. Эндэкі і падобные ім партыі дамагаюцца разьдзелу і далучэньня часьці Беларусі да Польшчы. Болей умераные кажуць аб уніі, аўтаноміі і. г. д. Навет П. П. С. не выказываецца паўным тонам (як напр. аб Украіне) хаця і прызнаець паўнае права на незалежнасьць і самавызначэньне.

Разрашэньне беларускага пытаньня залежыць шмат ад пазыцыі, якую займуць суседзі Польшчы—Латвія, Фінляндыя, як вырашыцца лёс Украіны і як глядзяць на гэта дзяржавы Антанты і савецкі урад.

Апошні, як і польскіе эндэкі, ня мае нічога проці разьдзелу Беларусі.

### Беларусы аб міры.

Цэнтральная Беларуская Рада Віленшчыны і Гарадзеншчыны і Віл. Бел. Нац. Камітэт вынесьлі рэзолюцыю, ў якой вымагаюць, што Беларусь як зацікаўленая старана, павінна мець на міравых перагаворах сваіх прадстаўнікоў з роўнапраўным голасам. У праціўным выпадку беларускі народ ня прызнае міравых умоваў.

### Рост нацыянальнага руху.

З розных куткоў Беларусі прыходзяць добрые весткі аб павялічэньні на мясцох нацыянальнага руху і самасьвядомасьці.

Усюды закладаюцца нацыянальные камітэты, літэратурна-драматычные гурткі, сельска-гаспадарскіе саюзы.

Беларускае сялянство вельмі зацікавілося фармаваньнем беларускай арміі.

Выносяцца пастановы аб адчыненьні беларускіх школ.

На выбарах на зьезд „Цэнтрабелсаюзу" праходзяць прадстаўнікі беларускіх організацыяў.

---

## НАШТО.

*Нашто губляць парывы чыстые*
*Таемных дум сваіх, сваей душы*
*Для тых, што стопчуць іх бязьлітасна,*
*Ці высмакчуць з цябе іх, як вужы.*

*Нашто трывожыць сэрцо беднае*
*Жаданьнем ласк сардэчнага цяпла,—*
*Усе роўна збэсьцяць тваё сэрцайка,*
*Сьвятое вырвуць з яго усе да тла.*

*Нашто, як жабраку, вымаліваць*
*Усе тое, што ты заслужыў жыцьцем*
*Знай, доля к тым не прысуседзіцца,*
*Хто жабранінай гоніць дзень за днем.*

*Ідзі праз сьвет з вачмі адкрытымі*
*У грудзях гадуй, як сталь, і моц і гарт,*
*Глядзі уваўкруг свабодным, сокалам*
*І крэпка знай, чаго ты у сьвеце варт!*

*Не паніжай сам духа вольнага*
*І у паніжэньне іншым не давай;*
*Над рабскаю таўпой асьлепленай*
*Над злом зямлі у высь да зор сягай.*

15/ІІ—15 г. **Янка Купала.**

---

## Што чуваць у палітыцы?

Найбольш важным здарэньнем у палітычным сьвеце ёсьць па ранейшаму новы курс

**Антанты да бальшавікоў.**

Вышэйшая Рада на пасяджэньні колькі дзён таму назад вынесла пастанову аб тым, што Антанта ня раіць болей дзяржавам, якіе утварыліся на тэрыторыі б. Расіі, вясьці вайну з бальшавікамі, заяўляючы, што будзе іх падтрымліваць, калі бальшавікі проці іх пойдуць і прапануе завязаць гандлёвые зносіны з расійскімі коопэратывамі. У пастанове Выш. Рады ёсьць так-сама

**адмаўленьне ў прызнаньні савецкага ураду,**

але гэта, сваім чынам, не мяняе міравой пазыцыі Антанты да бальшавікоў. Галоўнай прыхільніцай міру зьяўляецца

**Англія,**

дзе пытаньне аб міры з бальшавікамі пастаўлено рознымі грамадзкімі групамі на чаргу дня. Як паведамляюць, такі паварот адбыўся дзеля таго, што

**Амэрыка адмовілася дапамагчы Эўропе хлебам.**

Апіраючыся на прыхільнасьць да міру ў заходняй Эўропе, бальшавікі рабілі цэлы рад новых

**міравых пропозыцыяў Амэрыцы, Японіі, Румыніі і Італіі.**

Мажліва, што Румынія і Італія гэту пропозыцыю прымуць вельмі хутка. Румынія вымагае ад савецкай Расіі, каб яна прызнала за ею

**Права на Бэсарабію.**

У гэтым кірунку да міру асобна консэрватыўна настроена Францыя, ня гледзячы на тое, што там усё павялічываецца няпрыхільнасьць мас, на социялістычным конгрэсе перамаглі правые, а

**па ўсей Францыі выбухнула чыгуначная забастоўка.**

Гэтае недавольство мас у Францыі кіруе да таго, што

**урад Мільерана павінен зьмяніцца**

і на зьмену яму прыйдзе такі, якому лягчэй будзе разрашыць цяжкую палітычную сытуацыю, глаўным чынам у пытаньні аб

**пераглядзе міравога трактату з Нямеччынай,**

у якім Францыя ня хочаісьці ні на якіе ўступкі, ня гледзячы на тое, што перагляд яго нямінучы і грамадзянство ўсіх краёў вымагае гэта вельмі голасна. І, сапраўды, становішчо Нямеччыны такое цяжкое, што нямецкі урад мае аб'явіць

**Нямеччыну дзяржаўным банкротам,**

што болей усяго дапаможа нямецкім спартакаўцам. І мажліва, што ў хуткім часе наступіць такі момэнт, які давядзе да

**расійска-нямецкай згоды.**

Офіцыяльны прадстаўнік Расіі ў Бэрліне ўжо пачаў з нямецкім урадам перагаворы.

У зьвязку з гэтым зьвяртаюць на сябе увагу

**здарэньні на Літве.**

Там нядаўна выбухнуў бунт паміж войскам у Коўне. Як кажуць газэты, крайніе левые з Булатам на чале зьвярнуліся да Тарыбы з ультыматумам. каб ім перадалі ўладу.

---

## Бібліографія.

**„Беларусь у песьнях“. Літэратурна-гістарычны нарыс Я' Фарботкі. 95 стр. Цана 8 мар. Менск 1920 г.**

Аўтор хацеў паказаць у сваей працы тое, як адбілося акружаючае жыцьцё у творах беларускіх пісьменнікаў навейшай эпохі. Тэмат ня лёгкі і вымагае шмат навыку і публіцыстычнай віртуознасьці. Уплыў жыцьця на літэратуру, наогул вельмі цікавая рэч, але, маючы на увазе маладасьць аўтора, мы яму прабачаем нягпыбокасьць агляду і нясочнасьць стылю гэтага нарысу.

Больш-менш яму удалася апошняя эпоха—вялікая вайна і рэволюцыя, дзе аўтор дае нам разманіты цыкль беларускай поэзіі, струны якой адклікаліся досіць чула на акружаючае жыцьцё. Толькі мы-бы сказалі, што назва „Беларусь у песьнях“—зашырокая для гэтай працы, бо гэтай назвай не ахарактарызаваны нарыс.

Сваім чынам гэта кніжка можа служыць беларускай школе, як някепскі зборнік вершаў розных аўтораў. Кніжка можа зацікавіць і сталага чытача. Кожнаму беларусу варта яе купіць.

Выдана кніжка пекна.

**„Праграмы Беларускай ніжэйшай пачатковай школы“.** Выд. **Ц. Б. Шк. Рады. Менск 1920 г. 64 стр. Цана—3 маркі.**

Кніжка адпавядае свайму назначэньню. Кемна апрацована і вельмі патрэбна цяпер, калі школы беларускіе усё болей і болей пашыраюцца.

**Беларускі календар „Крыніца“ на 1920 г. Улажыў кс. А. Станкевіч. Вільня 1919 г. 64 стр. Цана 3 маркі.**

Календар надрукованы лацінкай і для беларускага каталіцкага насяленьня вельмі добры справачнік на увесь год.

**„Беларускі календар“ на 1920 г. („Наша Хата“). Вільня 1920 г. 64 стр. Цана—3 маркі.**

Календар надруковані кірыліцай для праваслаўных беларусаў. Календар мае ў сабе багата літэратурнага матар'ялу, толькі, нажаль, выгляд няважны і шмат карэктарскіх абмылак.

**„Цені“. Драма у 3-х актах Ф. Аляхновіча. Менск 1920 г. 47 стр.**

Гэта рэч вельмі багатая лірычный сымболікай драматычнасьцю. Яшчэ ў рукапісу пьеса была пастаўлена у Менскім гарадзкім тэатры. Сваім новым тэматам яна выклікала сярод беларускіх літэратараў вялікае ажыўленьне і ў свой час у газэце „Беларусь“ яна была абшырна зрэцэнзована, хаця спрэчна была ацэнена; рэцэнзэнт паказаў як на дэфэкт на небеларускі зьмест гэтай рэчы, нібы беларуская літэратура ня мае месца—для агульна чалавечых матываў.

Выданы „Цені“ вельмі няудачна. Навет на цяперашні час дарагоўлі выйшло ужо занадта лубачна. І гэта—вялікая памылка выдавецтва.

С.

Рэдактар і выдавец **Францішак Аляхновіч**. Літэратурны кіраўнік **Зьмітрок Бядуля**.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: **Менск, вул. Міцкевіча, Беларускі Дом** (быўш. Юбілейны).

Рэдакцыя адчынена **ад 11 да 1**. Адміністрацыя—**ад 9 да 2**.



З дазв. вайсков цэнзуры 10/3 1920 г., за № 111. Менск. Друкарня Інвалідаў.